## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
## № 137
## АБ НЕКАТОРЫХ ПЫТАННЯХ УПАРАДКАВАННЯ РАБОТЫ ПА ПЕРАТВАРЭННЮ МАЁМАСЦІ Ў ДАХОД ДЗЯРЖАВЫ

У мэтах упарадкавання работы па ператварэнню маёмасці ў даход дзяржавы, устанаўлення адзінага парадку ўліку, захоўвання, ацэнкі і рэалізацыі маёмасці, затрыманай, арыштаванай, канфіскаванай або ператворанай у даход дзяржавы іншым спосабам, а таксама абароны інтарэсаў дзяржавы **пастанаўляю:**

1. Зацвердзіць прыкладаемыя Палажэнне аб камісіях па арганізацыі ўліку, захоўвання, ацэнкі і рэалізацыі маёмасці, затрыманай, арыштаванай, канфіскаванай або ператворанай у даход дзяржавы іншым спосабам, і Парадак уліку, захоўвання, ацэнкі і рэалізацыі маёмасці, затрыманай, арыштаванай, канфіскаванай або ператворанай у даход дзяржавы іншым спосабам.

2. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

2.1. у двухмесячны тэрмін распрацаваць Інструкцыю па прымяненню Парадку ўліку, захоўвання, ацэнкі і рэалізацыі маёмасці, затрыманай, арыштаванай, канфіскаванай або ператворанай у даход дзяржавы іншым спосабам;

2.2. у месячны тэрмін распрацаваць:

парадак утылізацыі маёмасці, рэалізацыя якой немагчыма;

парадак залічэння ў даход бюджэту сродкаў ад рэалізацыі маёмасці, выплаты ўзнагароджання за здадзеныя скарбы, вяртанне грашовых сродкаў, атрыманых ад рэалізацыі маёмасці;

парадак кампенсацыі расходаў па захоўванню маёмасці;

2.3. забяспечыць прывядзенне актаў заканадаўства ў адпаведнасць з гэтым Указам і прыняцце мераў па яго выкананню.

3. Выключыць з падпункта 2.6 пункта 2 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 19 верасня 1997 г. № 486 «Аб дадатковых мерах па ўпарадкаванню ператварэння маёмасці ў даход дзяржавы» (Збор дэкрэтаў, указаў Прэзідэнта і пастаноў Урада Рэспублікі Беларусь, 1997 г., № 26-27, арт. 876) словы: «а таксама вырабаў з каштоўных металаў і каштоўных камянёў, мэблевых гарнітураў».

4. Гэты Указ увесці ў дзеянне з 1 студзеня 1998 г., за выключэннем Парадку ўліку, захоўвання, ацэнкі і рэалізацыі маёмасці, затрыманай, арыштаванай, канфіскаванай або ператворанай у даход дзяржавы іншым спосабам, які ўступае ў сілу з дня падпісання Указа.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА.**

18 сакавіка 1998 г., г. Мінск.

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
## № 136
## АБ БЕЛАРУСКІМ ФОНДЗЕ ФІНАНСАВАЙ ПАДТРЫМКІ ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ

1. Зацвердзіць прыкладаемае Палажэнне аб Беларускім фондзе фінансавай падтрымкі прадпрымальнікаў.

2. Устанавіць, што:

2.1. даходы ад дзейнасці Беларускага фонду фінансавай падтрымкі прадпрымальнікаў пасля выплаты ім падаткаў застаюцца ў распараджэнні фонду і накіроўваюцца на падтрымку малога прадпрымальніцтва ў Рэспубліцы Беларусь;

2.2. персанальны састаў праўлення Беларускага фонду фінансавай падтрымкі прадпрымальнікаў зацвярджаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь на тры гады па прадстаўленню Міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцый;

2.3. Беларускаму фонду фінансавай падтрымкі прадпрымальнікаў могуць прадастаўляцца ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку ў карыстанне будынкі, збудаванні, памяшканні, якія знаходзяцца ў дзяржаўнай уласнасці;

2.4. Беларускі фонд фінансавай падтрымкі прадпрымальнікаў мае права ва ўстаноўленым парадку аказваць суб'ектам гаспадарання фінансавую дапамогу, у тым ліку і на выплатнай аснове.

3. Дапоўніць пункт 9 Парадку вызначэння мінімальных ставак арэнднай платы за памяшканні ў адміністрацыйных будынках і збудаваннях, якія знаходзяцца ў дзяржаўнай уласнасці, зацверджанага Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 21 жніўня 1996 г. № 302 (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1996 г., № 24, арт. 592), абзацам наступнага зместу:

«памяшканняў, прадастаўленых у карыстанне Беларускаму фонду фінансавай падтрымкі прадпрымальнікаў і яго філіялам».

4. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

у трохмесячны тэрмін ва ўстаноўленым парадку ўнесці прапановы аб прадастаўленні падатковых ільгот суб'ектам малога прадпрымальніцтва, якія накіроўваюць са свайго прыбытку сродкі на рахункі Беларускага фонду фінансавай падтрымкі прадпрымальнікаў у якасці добраахвотных узносаў;

у месячны тэрмін забяспечыць прывядзенне нарматыўных актаў Урада Рэспублікі Беларусь і падпарадкаваных яму рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання ў адпаведнасць з гэтым Указам.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА.**

18 сакавіка 1998 г.
г. Мінск.

*РАДОК У ГІСТОРЫІ АЙЧЫНЫ*

# БНР — гісторыя і сучаснасць

**«Круглы стол» з такой назвай прайшоў учора ў Нацыянальным прэс-цэнтры Рэспублікі Беларусь. У ім прынялі ўдзел вядучыя навукоўцы нашай суверэннай дзяржавы.**

80 гадоў таму — 25 сакавіка 1918-га — узнікла Беларуская Народная Рэспубліка. Гэта быў складаны, супярэчлівы, шмат у чым неадназначны час. Наш край — спакутаваны вайной і замежнай інтэрвенцыяй, голадам і холадам — тым не менш, трымаўся годна і па-свойму незалежна. І хаця ўлада ў ім пераходзіла з рук у рукі, знайшліся людзі — шчырыя і праведныя патрыёты Айчыны, якія, не шкадуючы сіл, працавалі ў імя незалежнасці, самастойнасці, суверэнітэту Бацькаўшчыны.

З таго часу мінула роўна восем дзесяцігоддзяў. Мала гэта ці многа? Для чалавека — цэлае жыццё, для гісторыі — усяго толькі некалькі старонак. Аднак, на вялікі жаль, тыя старонкі вось ужо колькі часу (а па сутнасці — увесь гэты перыяд) мы ніяк не можам аб'ектыўна ацаніць, упісаць іх на належнае ім месца ў той жа Яе Вялікасці Гісторыі.

З мэтай прыйсці, ці хаця б наблізіцца да ісціны, паспрабаваць у чарговы раз аб'ектыўна зірнуць на падзеі 80-гадовай даўнасці і прыйшлі на пасяджэнне «круглага стала» акадэмікі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Іларыён Ігнаценка і Міхаіл Касцюк, дактары гістарычных навук Пётр Брыгадзін, Уладзімір Ладысеў, Уладзімір Міхнюк, кандыдаты гістарычных навук Уладзімір Казлякоў, Аляксандр Міхальчанка, Віталь Скалабан, кандыдаты філасофскіх навук Леў Крыштаповіч і Яўген Матусевіч.

Абазначаючы накірунак гаворкі, І. Ігнаценка зазначыў: настаў час найперш высвятліць, наколькі легітымнай была Беларуская Народная Рэспубліка? Чаму існаванне і дзейнасць яе былі кароткачасовымі і вузкімі: з самага пачатку кіраўніцтва БНР найбольшую ўвагу звярнула на знешнепалітычную дзейнасць? У ходзе дыскусіі сам жа акадэмік і адказваў на гэтыя і іншыя пытанні. Рада БНР не мела ў народзе шырокай апоры, таму і шукала яна падтрымку спачатку ў нямецкіх акупацыйных уладаў, потым — у польскіх. Ім абяцалі, запэўнівалі, аднак канкрэтна і практычна ніхто не падтрымаў...

М. Касцюк заявіў адназначна: абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі стала вынікам развіцця нацыянальна-вызваленчага руху ў Беларусі на пачатку дваццатага стагоддзя. І тут жа дадаў: без лютаўскай і кастрычніцкай рэвалюцый 1917-га гэта было б немагчымым. Факт утварэння БНР паскорыў узнікненне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. На погляд акадэміка, арыентацыя кіраўнікоў БНР на Германію была непапулярнай сярод народа, таму беларусы і не падтрымлівалі іх.

В. Скалабан цвёрда перакананы, што за апошнія некалькі гадоў адбылася грамадзянская і палітычная рэабілітацыя дзеячаў Беларускай Народнай Рэспублікі. Нарэшце наша гістарычная навука павярнулася тварам да тых сапраўды гістарычных падзей. Выдадзена шмат манаграфій, даследаванняў, артыкулаў аб дзейнасці Рады БНР, абаронена некалькі кандыдацкіх дысертацый па гэтай цікавай тэматыцы. Тым не менш, вучоны занепакоены ранейшымі спробамі асобных заангажыраваных навукоўцаў «бачыць» і «паказваць» гэту тэму ў іншым святле.

Каго ж меў на ўвазе выступоўца? Тут жа, на пасяджэнні «круглага стала», гэта стала відавочным. У. Казлякоў, Л. Крыштаповіч лічылі і лічаць БНР штучным утварэннем, усяго толькі ідэяй утварэння дзяржавы, больш таго — «спробай ажыццяўлення той ідэі на штыках» заваёўнікаў (Л. Крыштаповіч). Іншыя ўдзельнікі размовы з гэтым рашуча не пагадзіліся. І. Ігнаценка, М. Касцюк, У. Ладысеў, У. Міхнюк і іншыя бакі ў сваіх думках і развагах прыходзілі да высновы: Беларуская Народная Рэспубліка была дзяржавай у стадыі ўтварэння і фарміравання. Да дзяржаўнасці беларускія нацыянальныя дзеячы не дайшлі, аднак ад самой ідэі да яе ажыццяўлення пайшлі вельмі далёка. І ніхто больш рашуча не адстойваў інтарэсы Беларусі — найперш, паўторым, на міжнароднай арэне, чым дзеячы БНР!

Размова за «круглым сталом» аказалася дзелавой, вострай, канструктыўнай. Да адзіных высноў удзельнікі не прыйшлі, ды гэтага, уласна кажучы, ніхто і не чакаў. Аб гісторыі, справах і здзяйсненнях дзеячаў Беларускай Народнай Рэспублікі гаварылі разумныя, дасведчаныя людзі. Ім, як кажуць у такіх выпадках, і карты ў рукі. Горш іншае: калі «ацэньваць» падзеі Гісторыі бяруцца аматары гісторыі... Але гэта ўжо іншая размова.

БНР у айчыннай гісторыі была. І ёй час заняць сваё месца ў летапісе Бацькаўшчыны. Аб'ектыўнае — з набыткамі і поспехамі, пралікамі і няправільнымі крокамі. Тады і будзем мы, беларусы, мець, нарэшце, сваю сапраўдную Гісторыю!

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**

*АФІЦЫЙНА*

## ЧАРГОВАЕ ПАСЯДЖЭННЕ САВЕТА ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ

Пад старшынствам Анатоля Малафеева 18 сакавіка адбылося чарговае пасяджэнне Савета Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

На ім заслухана інфармацыя намесніка Старшыні Палаты прадстаўнікоў Уладзіміра Канаплёва аб завяршаючым этапе падрыхтоўкі да чарговай, чацвёртай сесіі Палаты прадстаўнікоў. З яе вынікае, што пастаянныя камісіі прапанавалі ўключыць у парадак дня сесіі 111 пытанняў. У іх ліку 95 законапраектаў, з якіх 42 патрабуюць разгляду ў першым чытанні, 37 — у другім. На сесію будуць вынесены для ратыфікацыі 12 міжнародных пагадненняў, 5 законапраектаў, якія раней былі адхілены Саветам Рэспублікі ці вернуты прэзідэнтам.

Мяркуецца, што ў ходзе гэтай сесіі будуць разгледжаны 10 праектаў кодэксаў, з іх 5 — у першым чытанні. Гэта — Грамадзянскі працэсуальны, Банкаўскі (агульная частка), Паветраны, Жыллёвы і Кодэкс аб зямлі. І 5 — у другім чытанні: Водны, Кодэкс гандлёвага мараплавання, Крымінальны, Крымінальна-працэсуальны і Крымінальна-выканаўчы.

Члены Савета пагадзіліся з канчатковым варыянтам праекта парадку дня і саставам рабочых органаў сесіі, якія будуць прапанаваны для зацвярджэння дэпутатам. Устаноўлена чарговасць разгляду законапраектаў на красавік, дзе прадугледжана, што 17 красавіка прэзідэнт краіны А. Лукашэнка звернецца са штогадовым пасланнем да парламента і адкажа на пытанні дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў і членаў Савета Рэспублікі.

Члены Савета Палаты прадстаўнікоў пагадзіліся з меркаваннем Камісіі па правах чалавека і нацыянальных адносінах аб нямэтазгоднасці вынясення для абмеркавання на чацвёртай сесіі новых паправак у Закон «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі».

**Прэс-служба Палаты прадстаўнікоў.**

# СІТУАЦЫЯ НА ВАЛЮТНЫМ РЫНКУ...

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

**— Якія ж меры мае намер прыняць Нацыянальны банк па стабілізацыі сітуацыі на валютным рынку?**

— Яны абмяркоўваюцца на розным узроўні. У прыватнасці, значнае месца адведзена вырашэнню гэтай праблемы на падагульняючай нарадзе работнікаў банкаўскай сістэмы, праведзенай 17 сакавіка.

Размова была сур'ёзная і прынцыповая. Мы дамовіліся таксама і аб тым, што будзем праводзіць рэгулярныя сустрэчы і кансультацыі для інфармавання камерцыйных банкаў і каардынацыі валютнай палітыкі. Гэта нікуды не варта, калі нашы банкі прымаюць рашэнні зыходзячы з таго, што адбываецца за межамі рэспублікі, тым самым падыгрываючы спекулянтам.

У цэлым прыярытэты палітыкі Нацыянальнага банка нязменныя. Гэта перш за ўсё забеспячэнне выканання паказчыкаў мэтавага гадавога прагнозу, зацверджаных прэзідэнтам краіны.

Што датычыць рэгулявання валютнага рынку, то тут мы будзем працягваць пастуپова рухацца да адзінага курса, які фарміруецца на аснове попыту і прапанавання на замежную валюту, але даволі стабільнага і абгрунтаванага.

Ужо намечаны комплекс мерапрыемстваў, у адпаведнасці з якімі Нацыянальны банк плануе павялічыць ліквіднасць Дзяржаўных казначэйскіх абавязацельстваў (ДКА) і купляць іх без абмежаванняў для падтрымання здольнасці банкаўскай сістэмы і такім чынам развіваць гэты рынак.

Гэта будзе садзейнічаць павелічэнню попыту на беларускі рубель і яго ўмацаванню. Акрамя таго, робяцца крокі па недапушчэнню лішняга росту грашовай масы. Як я ўжо сказаў, крэдытаванне сельскагаспадарчых праграм будзе ажыццяўляцца за кошт свабодных сродкаў банкаў, а не шляхам крэдытнай эмісіі. Мы маем намер таксама прыцягнуць на рынак ДКА замежныя банкі. Тым больш, што прапановы ад іх ужо паступілі і ў бліжэйшы час будуць разгледжаны.

Нацыянальны банк і ў далейшым мае намер прысутнічаць на знешнім валютным рынку і кантраляваць курс беларускага рубля. Мы плануем таксама актывізаваць супрацоўніцтва з Цэнтральным банкам Расіі.

Такім чынам, кантроль над сітуацыяй аднаўляецца, і ў бліжэйшы час яна будзе нармалізавана.

**БЕЛТА.**

# У ТРОХ СТАЛІЧНЫХ РАЁНАЎ — ЮБІЛЕЙ

З 60-годдзем утварэння Заводскага, Кастрычніцкага і Савецкага раёнаў сталіцы павіншаваў іх жыхароў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка.

«Гісторыя вашых раёнаў — гэта гісторыя горада-героя Мінска, гэта мінулае, сучаснае і будучае сталіцы Рэспублікі Беларусь», — падкрэсліў кіраўнік дзяржавы ў сваім віншавальным пасланні. У ім адзначаецца, што ў гады ваеннага ліхалецця і ў перыяд аднаўлення разбуранай фашыстамі народнай гаспадаркі Мінска жыхары гэтых раёнаў праявілі бязмежную мужнасць, стойкасць і гераізм.

Але асабліва яскравае імкненне мінчан зрабіць свой горад лепшым з лепшых праявілася ў 70—80-я гады: узводзіліся неабходныя для жыццядзейнасці аб'екты, ствараліся сучасныя вытворчасці, заснаваныя на высокіх тэхналогіях, развівалася інфраструктура горада. У гэты час упершыню прагучалі імёны многіх вядомых цяпер будаўнікоў, дырэктараў прадпрыемстваў, таленавітых кіраўнікоў раёнаў. Многія з іх за сваю самаадданую працу былі заслужана адзначаны высокімі ўзнагародамі Радзімы.

«Сёння вашы раёны па праву з'яўляюцца гордасцю і славай сталіцы нашай дзяржавы, — гаворыцца ў прывітанні Аляксандра Лукашэнкі. — Далёка за межамі рэспублікі вядома прадукцыя аўтамабільнага, падшыпнікавага, прыборабудаўнічага, авіярамонтнага заводаў, навукова-вытворчых аб'яднанняў «Інтэграл», вылічальнай тэхнікі, адкрытых акцыянерных таварыстваў «Керамін» і «Мінскмэбля».

Аднак славу нашай сталіцы прынесла не толькі самаадданая праца мінчан, адзначаецца ў віншаванні прэзідэнта. Дзяржава і ў гэты няпросты час стварае ўсе ўмовы для таго, каб было прыемна правесці вольны час у горадзе, чаму садзейнічаюць прыгожыя зоны адпачынку, зялёныя масівы, комплексы водных сістэм, утульныя кінатэатры, палацы культуры, спартыўныя пляцоўкі і стадыёны.

«Прыемна, што ў мінулым годзе працоўныя калектывы Заводскага, Кастрычніцкага і Савецкага раёнаў, як і сталічныя прадпрыемствы ў цэлым, перавысілі па асноўных паказчыках прагнозны ўзровень сацыяльна-эканамічнага развіцця, — падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка. — Гэта стала магчымым дзякуючы вашай нястомнай працы і бясконцым клопатам аб родным горадзе».

Кіраўнік дзяржавы пажадаў мінчанам добрага здароўя, шчасця, дабрабыту і новых працоўных здзяйсненняў.

**БЕЛТА.**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## «ВІЦЯЗЬ» НА МЯЖЫ ПРЫПЫНЕННЯ ВЫТВОРЧАСЦІ?

Як стала вядома карэспандэнту «Звязды», дырэктар вытворчага аб'яднання «Віцязь» даслаў на імя старшыні праўлення Нацыянальнага банка трывожны ліст аб тым, што прадпрыемства сёння знаходзіцца на мяжы прыпынення вытворчасці. Прычынай такой заявы стала адсутнасць кінескопаў, якія пастаўляюцца ў Віцебск з Паневежыса. Аплата, зразумела, праводзіцца ў свабодна канверсоўнай валюце. Аднак аб'ём продажу яе «Віцязю» на МВБ складае ўсяго 20—30 тысяч марак у дзень. Такім чынам, пры перыядычным недаатрыманні сродкаў, «Віцязю» прыходзіцца паступова паніжаць аб'ёмы вытворчасці, рост якіх летась (у параўнанні з 1996 годам) склаў 132,2 працэнта, а за два месяцы сёлетняга года — 130,6. Акрамя таго, паступленне з «Віцязя» сродкаў у бюджэт і пазабюджэтныя фонды склала ў 1997 годзе 162 мільярды рублёў, аб'яднанне забяспечыла працай больш як 6 тысяч чалавек.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

# ЦІ СПОЎНІЛАСЯ МАРА ВАШАГА ЖЫЦЦЯ?

**Хто з нас не памятае, як у дзяцінстве бацькі, сваякі, настаўнікі пыталіся: «Кім ты хочаш быць, калі вырасцеш?» «Касманаўтам», — адказвалі, напэўна, усе як адзін нашы таты і мамы. «Настаўніцай, міліцыянерам, вадзіцелем», — гаварылі ўжо мы, іх дзеці. Цяперашнія «кветкі жыцця» мараць аб кар'еры фотамадэлі, бізнесмена. Што ж, жыццё не стаіць на месцы, мяняюцца і мары. Ад нечага мы адмаўляемся свядома самі, чамусьці ажыццявіцца перашкаджаюць абставіны. Ці памятаем мы, аб чым калісьці марылася? Ці шкадуем аб сваіх дзіцячых і юнацкіх летуценнях? Магчыма, многае яшчэ можна навярстаць...**

**Людміла ЛАГОША,** ***дырэктар Мінскага сервісна-камерцыйнага прадпрыемства «Чайка»:***

— Шчыра кажучы, мая мара не здзейснілася. Калісьці, падчас вучобы ў хіміка-тэхналагічным інстытуце ў Іванаве, я хацела сур'ёзна займацца навуковымі даследаваннямі ў галіне афарбоўкі тэкстыльных вырабаў. Але наша група была амаль цалкам з Беларусі, і таму паўстаў выбар: або застацца ў Расіі, або вярнуцца на радзіму. Я свядома выбрала апошняе: захацелася назад, дамоў... Ці шкадую я аб няздзейсненай мары? Так, магчыма. Але я рэаліст і разумею, што тых часоў ужо не вярнуць...

**Ала КРУКАВА,** ***галоўны спецыяліст Міністэрства аховы здароўя РБ па гігіене дзяцей і падлеткаў:***

— Калі ў 8 гадоў у мяне памерла мая матуля, я цвёрда вырашыла, што стану медыкам і змагу вылечыць абсалютна ўсе хваробы. Мая мара здзейснілася: я закончыла лячэбны факультэт медыцынскага інстытута ў Ленінградзе, затым паступіла ў аспірантуру. У прафесійным плане мне ўсё жыццё шанцавала: ў мяне заўсёды былі не проста добрыя, а вельмі добрыя кіраўнікі і дырэктары. А самае галоўнае — у мяне была любімая цікавая работа.

**— Аб чым вы марыце сёння?**

— Пайсці хутчэй на пенсію, — смяецца субяседніца, — бо праца ля камп'ютэра з 8 гадзін раніцы да позняга вечара вельмі стамляе. А калі сур'ёзна, то я мару, каб у майго дзіцяці ў жыцці было ўсё добра.

**Алег КАПЯНКОЎ,** ***старшыня Клуба гітарыстаў Беларусі:***

— Мая мара ўжо збылася. Калісьці хацелася, каб існаваў клуб, месца, дзе маглі б збірацца выканаўцы гітарнай музыкі. Ужо больш як дзесяць гадоў у сценах Палаца культуры Мінскага аўтазавода гучыць гітара. Дзякуючы нашаму даўняму сябру і спонсару — фірме «Дайнова» ладзім фестывалі, сольныя канцэрты беларускіх выканаўцаў і гасцей з Расіі, Украіны, з далёкага замежжа. Прынамсі, да нас з задавальненнем едуць вядомыя ў Еўропе выканаўцы джаза, фламенка і класікі. А ў зале палаца амаль няма свабодных месцаў.

**— І гэта пры тым, што вы не праводзіце шырокую рэкламную кампанію?**

— Мы яе ўвогуле не праводзім. Неяк склалася так, што цікавасць да гітары існуе ў пэўнага кола людзей, якія вядуць з сабой сяброў, знаёмых. Музычныя школы прыходзяць ледзь не поўнымі калектывамі. Расказвалі, што на апошні канцэрт пыталіся лішняга білецька.

**— Напэўна, «зорны» канцэрт быў.**

— А ў нас усе «зоркі». Вунь у мінулым годзе адкрыццём стаў мінчанін Уладзімір Угольнік. Па шматлікіх просьбах гледачоў неўзабаве наладзім канцэрт беларускага Бібі Кінга. З ім дуэтам іграе мая жонка. Дык я ім зайздрошчу і мару стварыць «Трохвугольнік». Таму і ў студэнты да Уладзіміра падаўся на аддзяленне джаза ва універсітэце культуры. Грызу цяпер граніт джазавай навукі на першым курсе. Але наконт трыо я жартую. Хачу быць добрым менеджэрам дуэта, а калектыву жадаю паўнацэннага творчага жыцця.

**Генадзь Іванавіч,** ***яшчэ даволі дужы дзядуля, пенсіянер, 78 гадоў:***

— Калі я быў малады, адзінае, да чаго я імкнуўся тады, былі веды. У тыя гады мне вельмі хацелася атрымаць вышэйшую адукацыю.

**— Ці збылася гэта ваша першая мара?**

— І так, і не. Я недавучыўся адзін год у Адэскім інстытуце сувязі, калі пачалася вайна. У арміі я стаў афіцэрам-сувязістам, дзе мне і спатрэбіліся веды, якія я атрымаў у інстытуце. Пасля вайны застаўся кадравым вайскоўцам і праслужыў у арміі да пенсіі. Усе мары, якія былі ў мяне тады, амаль адразу здзяйсняліся. Калі пераехаў служыць у Мінск, адразу далі добрую службовую кватэру. Калі ў мяне нарадзілася другая дачка, амаль адразу атрымаў новую, больш прасторную кватэру. Аб чым тады можна было марыць, я не ведаю. Калі ты добра працаваў ці служыў, дзяржава таксама не паварочвалася да цябе спіною. Мне маёй зарплаты хапала аж за вочы. А зараз...

**— Якая мара ў вас ёсць сёння?**

— Я ўжо даволі стары, і асабіста для сябе нешта выдумляць ужо не трэба. А вось для малодшай унучкі загадаў бы жаданне. Зараз яна вучыцца ў камерцыйнай ВНУ. За вучобу там трэба плаціць вялікія грошы, якіх не хапае. Няхай яна атрымае вышэйшую адукацыю, тады і я буду шчаслівы.

**Наталля РУСАК,** ***прадавец з кіёска, маладая дзяўчына (25 гадоў), з крыху сумнымі вачамі:***

— Калі я вучылася ў школе, то марыла стаць доктаркай. Справа ў тым, што мой дзядуля быў добрым урачом, а мама і тата зараз працуюць у бальніцы хірургамі. Але мары, як і наша з вамі жыццё, пастаянна мяняюцца. Пасля 8 класаў разам з сяброўкамі пайшла вучыцца ў ПТВ. Больш года працавала на заводзе кладаўшчыцай на складзе. Тады я марыла паступіць вучыцца на відэаінжынера. Але і з гэтай марай у мяне нічога не атрымалася. Справа ў тым, што ў гэты час да мяне прыйшло жаночае жаданне нарадзіць дзіця. Гэта жаданне было мацней, за ўсе астатнія, і таму сёння ў мяне ёсць мой любімы сын Андрэйка. Калі здзяйсняецца такая мара, то ўсе астатнія ўжо не маюць вельмі вялікага сэнсу.

**— Няўжо зараз вы ні да чаго не імкняцеся? Зараз амаль уся моладзь марыць зарабіць вялікія грошы...**

— «Дурныя» грошы да дабра не даводзяць. Не патрэбны яны мне. Зарплаты хапае на жыццё — вось і добра. Сёння ў мяне больш зямная мара — паступіць вучыцца ў тэхнікум на бухгалтара. Але сёння ў мяне, як у маці, ёсць і другое жаданне — каб не было вайны.

**Міхаіл РУДЫ,** ***бухгалтар, невялікага росту мужчына гадоў пад 40, хітра ўсміхнуўшыся, спытаў-паведаміў:***

— Мабыць у кожнага сапраўднага мужыка была мара ў жыцці — сустрэць каханне велізарнае і прыгожае. Мне ў гэтым пашанцавала. Я знайшоў сапраўдную сваю палавінку. У выніку нашага кахання на свет нарадзіўся хлопчык, а праз два гады і яшчэ адзін хлопчык. Атрымліваецца, што мне двойчы пашанцавала.

І да гэтага часу я кахаю сваю жонку гэтак жа моцна, як тады, калі быў малады. Яшчэ была мара, каб праца не была цяжарам, каб на яе ішоў як на свята. Спаў і бачыў сябе артыстам кіно ці эстрады, клоунам у цырку, нават журналістам ці пісьменнікам.

**— І што вы рабілі, каб здзейснілася гэта мара?**

— Да нічога і не рабіў. Марыць марыў, а далей гэтага — не. Усяму віною, мабыць, лянота. Паспрабаваў, праўда, займацца «творчасцю» — бухгалтарам у адной камерцыйнай фірме, але своечасова здагадаўся, што мае выкрутасы могуць скончыцца за кратамі. Сёння зноў працую за грашы, але сплю цяпер спакойна. Ёсць яшчэ адна мара — паляцаць на паветраным шары. Але, мабыць, з-за той жа ляноты і гэта мара застанецца няздзейсненай.

## МУЖЧЫНСКІЯ РАДАСЦІ



Выхадны дзень. Па-мойму, нядзеля. Выбіты дываны. Ад жонкі атрымана ранішняя порцыя лаянкі пад умоўнай назвай: «Усе людзі як людзі, а ты...» Апрача лаянкі, атрымана ад яе ж і нейкая нязначная сума грошай. Яна дасць іх у любым выпадку, бо сямейнае жыццё пацвердзіла матчыну мудрасць: мужчына — што сабака, яго трэба раз-пораз выпускаць пабегаць па траўцы. Таму разумная жанчына глядзіць на гэта праз пальцы. Пабегае, захоча есці, усё роўна прыбяжыць дадому.

А што ім трэба, мужыкам? Сустрэцца, пагаварыць, зрабіць з трох нязначных сум адну значную і... ну, вы самі разумееце, што бывае далей. Пад «гэту справу» лягчэй скардзіцца. На малую зарплату і злую жонку, на цешчу, каб на яе ліха, на начальства, надвор'е, цыгарэты «Астра», якія зноў падаражэлі, і Бог яшчэ ведае на што. Тут мужчыны нічым ад жанчын не адрозніваюцца. Праўда, кожны пра сваё...

Адным словам, мужыкі дзейнічаюць па прынцыпу акадэміка Гальданскага: дабрадзейнасць заўсёды ўзнагароджваецца, распуста ж прыемная сама па сабе. Мужыкі — яны і ёсць мужыкі...

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**
**Фота Андрэя ШАЎЦОВА.**

***Пісьмо з рэдакцыі***

# КРЫХУ «МАРАЛІ» ПРА СЭНС ЖЫЦЦЯ

## Некалькі парад па выхаванню маладых «фанатаў»

Дзяўчынка была як дзяўчынка. Не па гадах рослая, сімпатычная. Любіла гуляць з замежнымі даўганогімі лялькамі малодшай сястры, а потым магла гадзінамі круціцца ля люстэрка, прымяраючы на сябе матчыны строі і ўпотай прыхарошваючыся яе касметыкай. Як і належыць дванаццацігадовай, мела сваіх «куміраў»: слухала нейкіх хлопчыкаў-«попсікаў» з сімпатычнымі тварамі і ліслявымі галаскамі, з захапленнем глядзела тэлеперадачы, у якіх па подыуму хадзілі прыгожыя жанчыны, на якіх яна хацела быць падобнай. Дзяўчынка старанна вучылася: у яе ўжо ў пятым класе была мара — стаць праграмістам. Нягледзячы на складаную і насычаную праграму гімназічнага класа, яна была выдатніцай. З маці яна зрэдку канфліктавала, як і ўсе падлеткі, але часцей любіла, пакацінаму скруціўшыся на канапе, пакласці галаву маме на плячо...

Я не бачыла Інку з лета. Прыехаўшы нядаўна ў госці да яе бацькоў, дзівілася: малая, як на вёсцы кажуць, «вылізалася», з нязграбнага падлетка ператварылася ў маладзенькую харошанькую дзяўчыну. Уразіла і Інчына стрыманасць — замест таго, каб з вясёлым крыкам кінуцца мне на шыю, як зрабіла б яшчэ паўгода назад, яна ціха раўнадушна павіталася і зачынілася ў сваім пакоі. Мне нічога не заставалася, як з замілаваннем сказаць яе маці: «Зусім ужо дарослая». Тая толькі цяжка (здалося нават, што занадта цяжка) уздыхнула...

*«...Пішу вам, хаця нехта скажа, што сорамна маці, якая не можа даць рады ўласнаму дзіцяці, звяртацца па дапамогу ў газету. Майму сыну, Андрэю, чатырнаццаць гадоў. Да нядаўняга часу ён быў звычайным падлеткам, а потым... Потым ён стаў замкнутым, панурым. Увесь час у сваім пакоі слухае нейкую «цяжкую» музыку, са мной амаль не размаўляе, усе мае спробы выклікаць яго на шчырую гутарку нічым не скончыліся. Усе сцены ў пакоі абклеіў плакатамі з выявай лідэра групы «Нірвана», які, здаецца, некалькі гадоў таму скончыў жыццё самагубствам. Вось пра каго ён можа гаварыць без упынку! Андрэй зусім закінуў вучобу. Але нават не гэта палохае. Прачытаўшы ў вашай газеце пра тое, што трое падлеткаў скочылі з высотнага будынка, мой сын адразу знайшоў тлумачэнне іх учынкам: «Яны былі «нірваністы». Вось гэта малайцы! Хапіла рашучасці». Сказаў гэта з зайздрасцю, а ў вачах нейкі дзіўны бляск... Я цяпер ператварылася ў шпіёнку. Так, так, я сачу за ўласным сынам, з якім яшчэ нядаўна было паразуменне і давер. Калі за ім заходзяць сябры — гэткія ж «нірваністы» — мне хочацца бегчы следам. І пакуль яго няма дома — вы і ўявіць не можаце, што я перажываю. На ўсе мае спробы спыніць яго Андрэй адказвае такой абыякавасцю і агрэсіўнасцю, што я проста губляюся. Што мне рабіць? Як ратаваць сына? Я вельмі за яго баюся...»*

Гэта пісьмо з Віцебскай вобласці ад Ірыны Л. прыйшло не так даўно. Я адклала яго да часу, не ведаючы, што рабіць. Шчыра кажучы, было сумненне: можа, занадта клапатлівая маці перабольшвае, можа, не так яно ўсё і страшна?

Але, паехаўшы ў Брэсцкую вобласць, да бацькоў дзяўчынкі, узгаданай у пачатку, я сутыкнулася з сітуацыяй, вельмі падобнай на апісаную ў пісьме. З Наталляй, маці Інкі, мы гаварылі доўга. Што ўразіла найбольш — яна, якая заўсёды была для мяне прыкладам спакою і вытрымкі, плакала...

«Ты ведаеш, я проста ў разгубленасці, не ведаю, што ўжо і рабіць. Яна зусім не слухаецца. Раней я ўвесь час хвалявалася: не ўступіла б яна ў якую-небудзь секту. Зараз думаю: можа яно і лепш было б, каб у секту...» Наталля дрыжачымі рукамі гартала школьны дзённік Інкі: «Вось, паглядзі. «Тройкі» па фізіцы, па геаметрыі... «Два» па біялогіі, па літаратуры. Гэта ж не матэматыка. Значыць, не вучыць зусім...»

Інка стала «нірваністкай». Збірае плакаты і каляндарыкі з выявай Курта Кабейна, лідэра групы «Нірвана», які не так даўно, нашпігаваўшыся наркотыкамі, да якіх быў вялікі ахвотнік, застрэліўся. Увесь час слухае касеты з яго хрыпатым голасам, перапісвае песні ў сшытак, перакладае іх (балазе, у гімназіі англійская выкладаецца на ўзроўні). Збірае ўсе выразкі, у якіх — хоць слова пра таго самага Курта, жыццё якога стала прыкладам для пераймання.

Нядаўна маці, прыбіраючы ў яе пакоі, знайшла Інчын асабісты дзённік. Некалькі месяцаў назад яна паклала б гэты сшытак на месца не адкрываючы. Але... Трэба ж было ведаць, што адбываецца з дачкой!. Ад таго, што прачытала, жахнулася. Інка, яе Інка няроўным яшчэ, дзіцячым почыркам пісала страшныя рэчы. Цэлыя старонкі былі спісаны біяграфіяй усё таго ж Курта з невялікімі заўвагамі: «Ах які чалавек!» «Ах, як яму, беднаму, было цяжка!» Ад наступнай фразы ў Наталлі пацямнела ў вачах. «Курт скончыў жыццё самагубствам. Цікава, што ён адчуваў? Можа, і мне паспрабаваць? Жыць усё роўна няма сэнсу...» «Цяпер я наогул яе не чапаю. А раптам і сапраўды што з сабой зробіць». І нечакана папрасіла: «Пагавары з ёй ты. Яна цябе заўжды трымае за аўтарытэт». Нічога не заставалася, як згадзіцца...

Я сядзела ў пакоі Інкі і разглядвала каляндарыкі з адным і тым жа тварам. Малады, прывабны. Наіўныя, амаль дзіцячыя, вялікія блакітныя вочы, светлыя, заўжды растрапаныя валасы. Я старалася зразумець, што ў гэтым чалавеку, які ўвесь час, нават у творчасці сваёй, выказваў стомленасць жыццём, такога, што нават пасля яго смерці завалодала розумам маладых. Ці думаў ён, калі, што ў краіне, аб існаванні якой ён наўрад ці ведаў, трынаццацігадовыя будуць вучыць на памяць яго песні, напісаныя пад уздзеяннем наркотыкаў? Ці было гэта яго мэтай? Блакітныя наіўныя вочы на нямой паперы нічога не гаварылі...

А потым была размова з Інкай. Я, напэўна, ніколі ў жыцці не гаварыла з такім натхненнем. З усіх закуткоў памяці выцягвала тое, што чула ў школе, ва універсітэце, пра што чытала сама. Расказвала пра вялікіх французаў з эпохі дэкадансу — Арцюра Рэмбо і Поля Верлена. Красамоўна апавядала пра іх «блакітнае» каханне, пра злоўжыванне алкаголем і наркотыкамі. Успамінала пра свайго куміра Фрэдзі Мэрк'юры, які таксама быў не святым і стаў ахвярай СНІДу. Галоўнае, што хацелася ёй давесці: геніі і людзі таленавітыя пакідаюць хоць нейкае апраўданне сваім дзівацтвам і няправеднаму жыццю. Бо пасля іх застаюцца не толькі скандальныя біяграфіі. Спачатку мы чытаем празрыстыя, поўныя пяшчоты і прыгажосці вершы Поля Верлена, захапляемся імі — і толькі пасля ўзгадваем, што ён памёр ад белай гарачкі. Неразборлівасць і няўрымслівасць у сувязях лідэра «Quenne» адсоўваецца на другі план, бо на першым заўсёды — яго музыка і голас... Ясенін, канешне, дарэмна столькі піў, але пра гэта забываешся, адкрываючы зборнік яго вершаў... І пра тое, што той самы Курт Кабейн калоўся і страляў у сябе, мы ведаем толькі дзякуючы яго хрыплым, стомленым, надрыўным песням... А хто ўспомніць маладзенькіх дурных фанатаў, якія таксама могуць ужываць наркотыкі і зрабіць крок у бездань, калі яны не могуць пераняць ад куміраў галоўнае, тое, што прымушае тысячы пакланяцца ім, — іх таленту, іх творчасці?



Малая слухала спачатку стомлена-раздражнёна, потым усё больш зацікаўлена. А я гнула сваё: ты можаш «фанацець» ад каго хочаш, можаш насіць на спіне яго партрэт, але не забывайся, што ты асоба, у якой свой лёс і свая свядомасць... Здаецца, Інка са мной урэшце пагадзілася.

І ўсё ж чагосьці нашым дзецям не хапае, калі яны ў трынаццаць гадоў думаюць не пра будучыню, а пра тое, што адчувае чалавек, забіваючы сябе. Можа, упэўненасці ў гэтай самай будучыні?

Нядаўна мне пазваніла маці Інкі. Пагаварылі пра справы, потым пачула: «А ведаеш, яна ўсё выправіла. За чвэрць, гаворыць, будуць толькі дзве «чацвёркі». І наогул змянілася. Я ўжо за яе не баюся... Праўда, — паўза, а потым неяк разгублена, — на тыя грошы, што ты ёй на падарунак дала, просіць купіць джэмпер з надпісам «Nirvana». Што рабіць?» З палёгкай уздыхнуўшы, я сказала: «Канешне, купі».

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**



### ТОЛЬКІ ФАКТ

**Золатавалютныя рэзервы** Расіі складаюць цяпер 16 мільярдаў долараў, а залаты запас краіны — 490 тон.

Аб'ём прамых **замежных інвестыцый,** якія плануецца прыцягнуць у Беларусь у гэтым годзе, складае 350 мільёнаў долараў.

Рэспубліка імпартуе каля **85 працэнтаў** спажываемых энергарэсурсаў.

**Адкрытае акцыянернае таварыства «СЛУЦКАЯ МЭБЛЕВАЯ ФАБРЫКА» — прадпрыемства ў краіне вядомае. У сваёй галіне адно з лепшых, як, між іншым, і адно з самых лепшых сярод прамысловых суб'ектаў гаспадарання ў Слуцку. Што хаваецца за гэтымі даволі лаканічнымі характарыстыкамі — «адно з лепшых» і «адно з самых лепшых»? Каб паспрабаваць адказаць на гэтае пытанне, мы і вырашылі пабываць на самім прадпрыемстве.**

## Адкрытае акцыянернае таварыства «Слуцкая мэблевая фабрыка»:

# «КРОК У КРОК З ЕЎРАПЕЙСКІМІ ВЫТВОРЦАМІ»

Пабываць на Слуцкай мэблевай фабрыцы і сустрэцца з яе кіраўніком — дырэктарам адкрытага акцыянернага таварыства Генадзем Катлярам, галоўнымі спецыялістамі прадпрыемства і яго рабочымі. Здавалася б, для некалькіх старонак у газету дастаткова і адной размовы з кіраўніком фабрыкі. Ды не, наўрад ці дастаткова, падумалася спярша. Таму што, відавочна, хацелася б, няхай прабачыць нас кіраўнік слуцкіх дрэваапрацоўшчыкаў, ведаць і яму, і ўвогуле прадпрыемству ацэнку з чужых вуснаў, збоку, скажам так. Няхай сабе і з боку зацікаўленага. Вось і звярнуліся па каментарый да гаспадароў мясцовай улады. І старшыня Слуцкага гарвыканкама Аляксандр Сайко, і яго першы намеснік Валянцін Сітнік ледзь не ў адзін голас ахарактарызавалі мэблевую фабрыку як прадпрыемства стабільнае, трывалае, выразна зарыентаванае на заўсёднае дасягненне высокіх эканамічных паказчыкаў, жыццяздольнае, словам. І пра настрой людзей у калектыве дрэваапрацоўшчыкаў выказаліся досыць акрэслена. Маўляў, людзей адтуль калом не выганіш. Працуюць на фабрыцы дзесяцігоддзямі, мітусні-бегатні там ніякай. Людзі разумеюць, што на стабільным прадпрыемстве і працаваць трэба стабільна.

Як па сённяшнім часе, дык ацэнка кіраўнікоў гарадской улады — яскравае вымярэнне, важкая ацэнка. Азірніцеся вакол. Эканамічнае бязладдзе, што цягнулася на працягу некалькіх гадоў, загнала і прадпрыемства, і тысячы, сотні тысяч людзей паасобку ў кут. Уражанне такое, што раптоўна пакацілася ўсё з гары. І ніякім каменем-валуном той разбег не спыніць. Значыць, развал закрануў і многія агульныя сферы. Дык якую ж у такім разе сілу і моц трэба мець, каб не ўпасці, не зваліцца, не скаціцца разам з усімі? Здаецца, слуцкія дрэваапрацоўшчыкі такой сілай валодаюць. І, пэўна ж, ці не ў першую чаргу сіла гэтая выяўляецца ў асобе дырэктара — Генадзя Катляра. Яго дырэктарства прыпала якраз на апошняе дзесяцігоддзе. І можна толькі здагадвацца, якіх высілкаў каштавала і каштуе дырэктару стабільнасць фабрыкі менавіта ў апошнія гады, на ўчарашнім разломе традыцыйных эканамічных зносінаў, у кантэксце сённяшняга ўваходжання ў рынак. Па словах калег Катляра па калектыву, дырэктар сумяшчае ў адной асобе многія якасці, многія як быццам, калі мераць меркамі цывілізаванага свету, нават асобныя прафесіі ці, на крайні выпадак, асобныя службовыя пасады. Ён жа і менеджэр, і дызайнер, і нават канструктар... Адчуваю, як шаноўны дырэктар пасля гэтых слоў усміхнецца сам сабе і, магчыма, падумае альбо ўслых скажа: «А гэта ж, відаць, і ёсць дырэктарства, сутнасць яго...» Сапраўды, дырэктару да ўсяго павінна быць справа. Інакш які ж ты кіраўнік?! Таму вось на рабочым стале Катляра і новыя часопісы, і ўзоры матэрыялаў, і ўсялякая фарнітура... Таму і не шкадуе кіраўнік часу, каб памазгаваць, якой павінна быць ручка на дзвярах шафы альбо якія колеры можна спалучаць, а якія і блізка не павінны быць побач. Такую ўжо ўласцівасць мае сапраўдная, разлічаная на поспех вытворчасць, што да ўсяго кіраўніку павінна быць справа.

Сёння Слуцкая мэблевая фабрыка выпускае пераважна спецыяльную мэблю — офісную і школьную. Асартымент (вонкава вы можаце пазнаёміцца з ім па здымках, што ілюструюць наша ўяўленне пра слуцкіх дрэваапрацоўшчыкаў) даволі разнастайны. Вось толькі некаторыя з назваў: «Прэм'ер», «Вена-Прыма», «Вена-Прыма-1», «Прэм'ер-1», «Глорыя», «Модульная сістэма», «Вена-1М». Усе названыя мадэлі маюць мадыфікацыі, якія адрозніваюцца па кампанентах, а таксама па колеру. Яшчэ на прадпрыемстве займаюцца вырабам спальняў — «Кацярына» і «Чабурашка» (зразумела, дзіцячая). Што датычыць кошту набораў мэблі, то ён, адразу можна заўважыць, даволі прыстойны, зарыентаваны на айчыннага спажыўца. Случчане, дбаючы пра высокую якасць, стараюцца максімальна скараціць затраты. Не заўсёды гэта, безумоўна, удаецца. На цану ўплывае матэрыял. Карыстаюцца случчане ў асноўным замежным шпонам. І не толькі таму, што з'яўляецца ён досыць сімпатычным, пераконвае пакупніка, што набывае той сапраўды мэблю дубовую, кляновую ці якую заўгодна. Дарэчы, яшчэ ці не два гады таму кіраўнік прадпрыемства, што датычыцца шпону, выказаўся ў адным інтэрв'ю наступным чынам: «...Простая арыфметыка. Адным з важных кампанентаў мэблі з'яўляецца шпон. Звычайнага айчыннага шпону нам патрэбна 150—200 тыс. кв. м на месяц. Прычым карысны выхад у ідэале складае 40—45 працэнтаў, а ў натуры — не больш за 30. Але калі ў Мінску на выстаўцы мне прапанавалі замежны шпон і сказалі, што «чысты» выхад яго складае 80 працэнтаў і фірма гарантуе гэта, а цэны амаль не адрозніваюцца, я зрабіў некалькі элементарных разлікаў і прыйшоў да высновы, што імпартнага шпону мне дастаткова ўсяго толькі 50 тысяч «квадратаў». У выніку прадукцыя значна патаннее. Калі на вытворчасці пашукаць, дзе што зэканоміць, то знойдзецца шмат прарэх, якія можна залатаць не прыкладаючы шмат намаганняў і фінансавых затрат». Вось і цяпер заходнія партнёры цікавяць случчан у большай ступені. Працаваць з імі, калі гаварыць пра абавязковасць, характар узаемаадносінаў, ды і далёка не ў апошнюю чаргу — пра якасць матэрыялаў, куды прасцей. Праўда, на вялікі жаль, ніяк нельга працаваць напрамую. У прадпрыемства няма магчымасці набываць валюту. Даводзіцца працаваць праз дылераў. Безумоўна, на пэўным этапе эканамічнага развіцця, у час паступовых перамен, мажліва, і патрэбна жорсткае рэгуляванне валютных аперацый. Але чаму ж не спрасціць працэдуру для стабільных у эканамічным плане прадпрыемстваў? Шкада, што гэтага не ўлічваюць. Тым больш, што развіццё новых тэхналогій якраз і патрабуе наяўнасці валютных сродкаў. Іншая справа — жорсткі кантроль за мэтавым выкарыстаннем валюты.

Займаючыся пастаянным удасканаленнем прадукцыі, на фабрыцы рупяцца, каб укараняліся сапраўды рэдкія і каштоўныя пароды драўніны. Як прыклад — прымяненне каразінга, бубінга, арэха. Якасць і ўдасканаленне канструкцыі — вось два асноўныя накірункі, якія нязменна хвалююць дрэваапрацоўшчыкаў.

— Дарэчы, — цікаўлюся ў галоўнага інжынера фабрыкі Галіны Ламец, — ці адчуваеце вы па зносінах са спажыўцом, што шалі пры выбары прадукцыі, пры пакупцы ўсё ж вагаюцца? Слуцкую мэблю параўноўваюць з італьянскай, напрыклад, прадукцыяй?

— Думаю, што параўноўваюць. І гэта зразумела. Тым болей, што ў свеце гэта датычыцца любой галіны, на працягу пэўных адрэзкаў часу складваюцца традыцыі, якія пасля ўмацоўваюцца, трывалеюць. І парушыць іх даволі складана. Так і ў галіне вытворчасці мэблі. Таму і параўноўваюць. Але ж спрацоўвае і на нашу карысць тое, што мы працуем па самых высокіх замежных стандартах. Працуем не з сінтэтычным матэрыялам, а з натуральным шпонам, натуральнымі відамі парод. Да нас прыглядаюцца. І калі пераконваюцца, што якасць не горшая, чым у тых жа італьянцаў, набываюць менавіта слуцкую мэблю.

Сваю ролю ў барацьбе за пакупніка адыгрывае і ўвага случчан да змен у канструкцыі. Да таго ж тут, у Слуцку, не проста аднязначна капіруюць чужыя канструкцыі. Звярнуўшы ўвагу на знаходкі замежных дрэваапрацоўшчыкаў, случчане мадэрнізуюць пэўныя часткі, спалучаюць знойдзенае з уласнымі адкрыццямі. Пачнеш аглядаць слуцкую офісную мэблю — і вочы разбягаюцца. Уражанне такое, што трапіў ці не ў самую багатую камерцыйную фірму. Прайшоўся адразу па некалькіх высокіх, так бы мовіць, кабінетах. І сапраўды, случчанам ёсць чым ганарыцца. І гэта пры ўмове, што офіснай мэбляй прадпрыемства, якое калісьці спецыялізавалася выключна на школьнай мэблі, займаецца ўсяго толькі нейкі дзесятак гадоў. Мабільнасць, здольнасць аператыўна ўплываць на змены ў тэхналагічным працэсе — вось што дапамагае слуцкім дрэваапрацоўшчыкам ісці крок у крок з еўрапейскімі вытворцамі.

І пры гэтым, што варта адзначыць, мабільнасць, аператыўнасць у тэхналагічных зменах ажыццяўляецца пры ўмове сталай, надзвычайнай увагі да якасці, трываласці мэблі.

З новых накірункаў, якімі займаюцца на Слуцкай мэблевай фабрыцы, — і бытавая мэбля. У тым ліку гэта і прыгожая белая спальня.

**Сапраўды, кошт мэблі, якая вырабляецца ў Слуцку, не такі ўжо і малы. Але ж і памятаць трэба, што адсутнасць сінтэтычных матэрыялаў, «доўгажыхарства», гарантаванае фабрыкай, прывабны знешні выгляд — вось тыя аргументы, што не пакідаюць раўнадушным пакупніка, прымушаюць рабіць выбар на карысць слуцкіх майстроў-дрэваапрацоўшчыкаў.**

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**









*Вытворчае аб'яднанне «Ольса» Сяргей Пеклін узначаліў роўна чатыры гады таму — 1 красавіка 1994-га. Узначаліў, дарэчы, па просьбе самога калектыву прадпрыемства. А здарылася гэта вось чаму і вось пры якіх абставінах.*

*Аб'яднанне, якое ў нядаўнія савецкія часы рытмічна і планава пастаўляла прадукцыю спажыўцам і практычна ніколі нікога не падводзіла, раптам... закульгала на абедзве нагі. Нібы аказалася нікому не патрэбным, лішнім ці што, у грамадска-эканамічным жыцці. Імкліва пачалі расці даўгі і запазычанасці. Пачасціліся прастоі вытворчасці. А самым балючым, несумненна, стала скарачэнне вытворча-тэхнічнага персаналу прадпрыемства...*

*Карацей кажучы, вытворчае аб'яднанне пачало ў прамым сэнсе слова ліхаманіць. Не на жарт узрушылася раённае, гарадское і абласное начальства. Тагачаснае кіраўніцтва вымушана было пайсці ў адстаўку.*

*Тады работнікі вытворчага аб'яднання і папрасілі Сяргея Іванавіча Пекліна, які раней ужо працаваў тут, узначаліць «Ольсу». І, як гэта ні падаецца сёння дзіўным, той, добра ведаючы становішча на прадпрыемстве, прыняў прапанову.*

*З генеральным дырэктарам ВА «Ольса» гутарыць наш спецыяльны карэспандэнт.*

## Візітная картка аб'яднання

**Гэта прадпрыемства ўзнікла ў 1932 годзе. Спачатку яно называлася заводам тэхналагічнай аснасткі, потым — аб'яднаннем металічных вырабаў. Цяпер гэта магілёўскае вытворчае аб'яднанне «Ольса».**

**У састаў аб'яднання на правах структурных падраздзяленняў сёння ўваходзяць: галаўное прадпрыемства «Ольса», цэх металаапрацоўкі ў Касцюковічах, участак пашыву ў Чавусах і фірменны магазін.**

**Сёння ў вытворчым аб'яднанні працуюць каля 600 чалавек.**

**За мінулы год «Ольсай» выраблена товарнай прадукцыі ў супастаўных цэнах на 62 мільярды 313 мільёнаў рублёў. Пры плане 110 працэнтаў тэмпы росту склалі 158,2. Выраблена тавараў народнага спажывання на 84 мільярды 720 мільёнаў рублёў (у адпускных цэнах). Тэмпы росту тут склалі 159 працэнтаў пры плане 105. Асвоена новых відаў прадукцыі на суму 2 мільярды 795 мільёнаў рублёў.**

**Аб'ём экспартных паставак выкананы на суму 1 мільён 608,8 тысячы долараў (тэмпы росту 111 працэнтаў). Выручка ад рэалізацыі склала 100 мільярдаў 120 мільёнаў рублёў.**

**Прыбытак ад рэалізацыі ў дзеючых цэнах выкананы на 323,2 працэнта пры плане 140. Рэнтабельнасць ад рэалізаванай прадукцыі — 10,6 працэнта.**

**У адпаведнасці з распрацаванымі мерапрыемствамі па зніжэнню сабекошту атрымана эканомія: за кошт рацыянальнага выкарыстання матэрыялаў — 312 мільёнаў рублёў; за кошт зніжэння працаёмістасці — 120 мільёнаў, па энергазберажэнню — 252 мільёны рублёў.**



Генеральны дырэктар Магілёўскага вытворчага аб'яднання «Ольса» Сяргей ПЕКЛІН

*Сяргей ПЕКЛІН:*

# «НАША ПРАДУКЦЫЯ ПА ЯКАСЦІ І АФАРМЛЕННЮ НЕ ЎСТУПАЕ СЁННЯ ШВЕДСКІМ, ДАЦКІМ, НЯМЕЦКІМ АНАЛАГАМ. А ВОСЬ МЕДЫКАМ БЕЛАРУСІ ЯНА НІБЫТА І НЕ ПАТРЭБНА...»

***— Сяргей Іванавіч! Вытворчае аб'ядананне «Ольса», як вы мне сказалі, спецыялізуецца на выпуску тавараў мэблевай групы. Хацелася б найперш пачуць канкрэтную расшыфроўку накірункаў дзейнасці.***

— Калі ласка. Наша прадпрыемства спецыялізуецца па трох накірунках вытворчай дзейнасці. Першы: кемпінгавая мэбля (складныя ложкі, шэзлонгі, крэслы — адным словам, мэбля для адпачынку), дачная, садовая, тэрасная, офісная і мэбля пад заказ. Другі накірунак — медыцынскае абсталяванне. Трэці — тэхналагічная аснастка.

Адразу, як толькі я ўзначаліў калектыў, зразумеў: на вытворчасці тавараў першага накірунку прадпрыемства не выжыве. Мэбля гэта носіць, так бы мовіць, сезонны характар, ды і ў цяжкіх эканамічных умовах, у якіх знаходзілася тады наша Рэспубліка Беларусь, попыт на яе быў невялікім. І, як паказаў потым час, наша наступная арыентацыя на вытворчасць медыцынскага абсталявання нас не толькі выратавала, але і дазволіла мець неблагія па цяперашнім часе паказчыкі.

***— Дык з чаго ж вы пачалі канкрэтна?***

— У выніку шматлікіх сустрэч, размоў, дыскусій з медыцынскімі работнікамі горада Магілёва, і ў прыватнасці з медыкамі гарадской бальніцы, было прынята рашэнне пачаць вытворчасць функцыянальных ложкаў. За словам неадкладна была зроблена справа. Калі ў тым жа 1994-м мы вырабілі ўсяго толькі дваццаць ложкаў, дык у наступныя гады — нашмат больш: у 1995-м і 1996-м — па 182, а ў 1997 годзе — ужо 757 штук. Забягаючы наперад, зазначу, што ўжо сёння гэтыя ложкі выкарыстоўваюцца ў кардыялагічных, траўматалагічных, хірургічных — практычна ва ўсіх аддзяленнях бальніц.

Акрамя гэтага, прадоўжылі мы і выпуск звычайных бальнічных ложкаў. Сёння яны, дарэчы, патрэбны практычна ўсім медыцынскім установам рэспублікі: думаю, многія, калі не большасць чытачоў «Звязды» ведаюць, якое ўбогае абсталяванне ў бальніцах — зношанае, іржавае, а панцырная сетка тых ложкаў прагінаецца да самай падлогі...

Вырабляем у апошнія гады і шторкі медыцынскія трохсекцыйныя на шаравых апорах. У 1995 годзе іх выпусцілі ўсяго толькі 55, а ўжо ў 1996-м і 1997-м — адпаведна 115 і 155. З-за цеснаты нашых медустаноў яны таксама проста неабходныя ў штодзённым жыцці нашай дзяржавы. Дарэчы, попыт на іх даволі вялікі. Асвоілі і выпуск мыліц — звычайных мыліц для інвалідаў, між іншым — па галандскаму ўзору. Аднак імі чамусьці зусім не зацікавілася наша Міністэрства аховы здароўя...

***— Куды ідзе ваша прадукцыя?***

— Раней, калі быў дзяржаўны заказ, праблем са збытам прадукцыі не было ніякіх. Мы пастаўлялі яе ў некалькі адрасоў: Белкаапсаюз, дзяржгандаль, некаторым іншым аптавікам. Брала вырабы рэспубліка, ішлі яны і ў Расію. Сёння ж гандаль — дзяржаўны, зазначу, гандаль — мала заказвае і бярэ для рэалізацыі вырабаў «Ольсы». Найперш я маю тут на ўвазе кемпінгавую мэблю (да медыцынскага абсталявання мы з вамі яшчэ вернемся). Чаму мала? Відаць, непакоіць кошт: усё ж такі гэта прадукцыя не для масавага спажыўца. Хаця, хачу зазначыць, у другой палове мінулага года і ў першыя месяцы гэтага мы атрымалі нямала прапаноў ад гандлюючых арганізацый. Прадпрыемства задавальняе іх і, дай Бог, каб справа пайшла...

Працэнтаў 55—60 нашай прадукцыі сёння забірае Масква. У такіх аб'ёмах з расійскай сталіцай мы працуем ужо 2,5—3 гады. Сфарміраваліся ўжо даволі трывалыя гандлёвыя сувязі, працуем з масквічамі па папярэдняй заяўцы і аплаце, і праблем — каб толькі не сурочыць! — практычна няма. Ідуць вырабы і ў іншыя рэгіёны Расійскай Федэрацыі. Больш таго, іхнія заяўкі мы не паспяваем нават задавальняць.

***— Сяргей Іванавіч! Ці не таму ваша прадукцыя карыстаецца добрай славай у Расіі, што па якасці яна — надзейная і сучасная, а па цане — куды танней, чым замежныя аналагі?***

— Калі казаць аб'ектыўна — гэта так. А каб задаволіць попыт спажыўцоў, нам неадкладна трэба шукаць і знаходзіць шляхі павелічэння аб'ёмаў вытворчасці, для чаго неабходна пераходзіць на трохзменную работу. Толькі зрабіць гэта нам вельмі і вельмі няпроста!

Яшчэ тры гады таму прадпрыемства шырока экспартавала сваю прадукцыю і ў развітыя капіталістычныя краіны. Так, у 1994-м мы пастаўлялі ў Германію да 7 працэнтаў кемпінгавай мэблі. Тады ж мы вывозілі свае вырабы ў Швецыю, Данію, Францыю...

***— Дык у чым жа справа?***

— Кіраўніцтва вытворчага аб'яднання, дэталёва разабраўшыся ў сітуацыі, вымушана было прыпыніць тыя кантракты. І вось чаму. Узначаліўшы прадпрыемства, я ўбачыў і цвёрда пераканаўся, што тыя дамовы з заходнімі краінамі з'яўляліся для нас стратнымі. Ранейшае кіраўніцтва «Ольсы» складала кантракты з пэўнымі выгадамі для сябе асабіста... Ложак, для прыкладу, каштаваў столькі ж, колькі... пачак цыгарэт!

З таго часу якасць нашай прадукцыі ніколькі не пагоршылася, наадварот — нават палепшылася. І сёння яна па-ранейшаму не ўступае аналагічным узорам еўрапейскіх краін.

***— У гэтым вы, відавочна, пераконваецеся на міжнародных кірмашах?***

— Так. Наведваючы штогод дзесяць—дванаццаць кірмашоў мэблі, мы і прыйшлі да такога цвёрдага пераканання. Напрыклад, на штогадовым кірмашы «Спога» ў Кёльне (Германія), збіраюцца вытворцы кемпінгавай мэблі з усяго свету. І там мы выглядаем вельмі і вельмі прыстойна. Адзіная наша слабасць перад заходнім светам — тканіны. Між іншым, гэта праблема вельмі вострая, прычым для ўсёй нашай рэспублікі. Для мэблі, іншых вырабаў мясцовай прамысловасці ў нас няма добрых тканін — яркіх, насычаных, сучасных. На Баранавіцкім баваўняным камбінаце, на якім мы, дарэчы, нядаўна былі, свае цяжкасці і нявырашаныя праблемы, і першая з іх — недахват бавоўны. Камбінат шмат прастойвае, працуе ў асноўным на заказной сыравіне. Тое ж датычыцца і расійскіх вытворцаў тканін з Іванава і Ярцава: даць спажыўцу якасную тканіну яны сёння проста не могуць.

Паўтаруся: на нашы б каркасы сучасную прыгожую тканіну — і ёй бы цаны не было — без перабольшання! — ва ўсім свеце!

***— Сяргей Іванавіч, што канкрэтна найбольш хвалюе і непакоіць вас як дырэктара?***

— Найбольш, вядома ж, эканамічна-фінансавае становішча прадпрыемства.

Чатыры гады таму ад папярэдняга кіраўніцтва вытворчага аб'яднання я атрымаў «у спадчыну» 1 мільён 200 тысяч долараў валютнага доўгу. Уяўляеце: адзін мільён дзвесце тысяч долараў! Плюс унутраная картатэка! Плюс стратныя кантракты, пра якія мы гаварылі крыху вышэй! Дзякуй Богу, на сённяшні дзень валютныя даўгі ўжо практычна пагашаны: засталося дзесьці 100 тысяч долараў асноўнага доўгу. Але гэта яшчэ не ўсё. У выніку безгаспадарчай дзейнасці майго папярэдніка «Ольсе» налічана каля 8 мільярдаў рублёў штрафных санкцый. Падатковая інспекцыя патрабуе неадкладна выплаціць іх, інакш, маўляў, будзе апісана маёмасць аб'яднання з усімі адсюль негатыўнымі наступствамі для калектыву.

***— Якое ж выйсце з гэтай крытычнай сітуацыі?***

— Ва ўзнікшай сітуацыі калектыў прадпрыемства, яго цяперашняе кіраўніцтва абсалютна ні пры чым. Гэта, паўтаруся, спадчына нашых папярэднікаў.

Найлепшым рашэннем у такім незайздросным становішчы было б зняцце штрафных санкцый. Аднак, ведаючы становішча ў дзяржаве, думаю, што гэта наўрад ці рэальна. У такім выпадку няхай бы нам «замарозілі» выплату штрафных санкцый гадоў на пяць... Маючы востры недахват абаротных сродкаў, няпоўнасцю пагашаныя валютныя даўгі ды пачаць яшчэ выплачваць штрафы — гэта, пагадзіцеся, для вытворчага аб'яднання поўны крах!

Дзяржава, на маю думку, павінна быць зацікаўлена ў іншым — у падтрымцы тых, хто хоча працаваць, у каго, прабачце за нясціпласць, гэта атрымліваецца ў цяперашні складаны, неадназначны, супярэчлівы час. Чатыры гады правялі мы ў пакутлівых пошуках выйсця з крызісу. Здаецца, знайшлі яго! Таму нам сёння так патрэбна падтрымка, канкрэтная дапамога!

***— Якой жа бачыцца вам перспектыва аб'яднання?***

— Прадукцыя, якую мы вырабляем, як вы пераканаліся, карыстаецца добрым попытам. Аб гэтым, у прыватнасці, сведчаць і лічбы з «Візітнай карткі аб'яднання». Сёння мы з'яўляемся манапалістамі і ў Рэспубліцы Беларусь, і ў Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Таму ў бліжэйшыя тры—пяць гадоў мы павінны ўзмоцнена нарошчваць аб'ёмы выпуску кемпінгавай мэблі. І, вядома ж, не забываць аб якасці прадукцыі. Для гэтага ўсе магчымасці ў нас ёсць.

Я як кіраўнік бачу перспектыву і ў акцыяніраванні прадпрыемства. Як толькі стабілізуецца фінансавае становішча аб'яднання (а на гэта нам трэба яшчэ год-паўтара), мы будзем гатовы да гэтага. Ужо сёння, з улікам нашых напрацовак і становішча, можна інвесціраваць прадпрыемства ў тую ці іншую вытворчасць. У далёкім і блізкім замежжы нашу прадукцыю ведаюць, як ведаюць і нашы магчымасці, абсталяванне (а яно, зазначу, даволі унікальнае), і, калі будзе ў нас нармальнае фінансавае становішча, замежныя партнёры будуць гатовы з намі супрацоўнічаць. Інвестараў шукаць нам не трэба будзе, яны знойдуцца самі.

І, вядома ж, варта развіваць паралельна другую вытворчасць — медыцынскага абсталявання.

Мне асабіста шмат даводзіцца працаваць з медыцынскімі ўстановамі і арганізацыямі па праблемах збыту прадукцыі. Таму сітуацыю тут ведаю не па чутках. Сёння функцыянальныя ложкі нашы медустановы закупляюць у асноўным у Расіі альбо атрымліваюць — былыя ва ўжыванні — па лініі гуманітарнай дапамогі. І гэта пры тым, што, прабачце за нясціпласць, у нас ёсць **сваё** — лепшай якасці, новае, сучаснае і, галоўнае, таннейшае па кошту. Аднак тым установам, іхнім кіраўнікам зверху куды «выгадней» набываць абсталяванне за мяжой: там перападае што-кольвечы і ім асабіста... Гэта я заяўляю з усёй адказнасцю!

На ўсіх узроўнях — у рай-, гар-, аблвыканкамах, у Міністэрстве аховы здароўя і канцэрне «Белмясцпрам» — я гавару і паўтараю аб неабходнасці ў інтарэсах нашай дзяржавы ажыццявіць спецыялізацыю «Ольсы» ў гэтым накірунку. Новае медабсталяванне сёння патрэбна абсалютна кожнай медыцынскай установе Беларусі — гэту аксіёму магу даказаць усім і кожнаму. Патрэбны функцыянальныя і самыя звычайныя ложкі, шторкі, мыліцы, шафы, тумбачкі... Больш таго, наша інжынерная служба гатова зараз жа прапанаваць да выпуску і зусім новую прадукцыю, скажам, універсальныя насілкі — сур'ёзную распрацоўку зноў жа такога патрэбнага вырабу, якім можна абсталяваць усе машыны «хуткай дапамогі» рэспублікі. Скажыце: у каго павернецца язык сцвярджаць, што яны не патрэбны?! Аднак без папярэдняй гарантыі аб збыце гэтых вырабаў мы не можам прыступіць да іх распрацоўкі і вытворчасці. Не можам, паколькі зведалі шмат праблем і выпрабаванняў з тымі ж функцыянальнымі ложкамі...

***— Сяргей Іванавіч, калі ласка, пра гэта больш падрабязна.***

— Скажу шчыра: у 1994 годзе я асабіста прыняў рашэнне аб распрацоўцы і выпуску медыцынскіх функцыянальных ложкаў — адна- двух- і трохсекцыйных. Уклалі ў гэта вялікія сродкі. А ложкі, нягледзячы на высокую ступень якасці і дасканаласці, патрэбнасці і таннасці, як я зазначаў ужо, з цяжкасцю прабівалі сабе дарогу ў гандаль. Я быў іншы раз проста ў роспачы: няўжо, думалася, грошы выкінуты на вецер? Таму сёння я проста баюся чарговай рызыкі... Калі будзе падтрымка дзяржавы, зацікаўленасць высокіх кіруючых асоб — тады мы смела і неадкладна возьмемся за новыя распрацоўкі. І будзем працаваць для агульных, рэспубліканскіх патрэб.

Палітыка прэзідэнта Беларусі ў гэтых пытаннях правільная. Мы і сапраўды павінны разам працаваць для насычэння нашага ўнутранага рынку лепшымі вырабамі і таварамі. І найперш — айчыннай вытворчасці. Але гэта чамусьці не ўсе разумеюць. Раней быў у нас дзяржзаказ. Камусьці ён перашкаджаў, не «даваў ходу». Добра, давайце тады зараз, у суверэннай дзяржаве, цэнтралізуем заказы прадукцыі. І тады анархія на вытворчасці, усёдазволенасць чыноўнікаў там, наверсе, адступяць. Абавязкова адступяць!

***— Колькі канкрэтна медыцынскага абсталявання мае намер выпусціць «Ольса» ў гэтым годзе?***

— Адна-, двух- і трохсекцыйных функцыянальных ложкаў 1900; трохсекцыйных шторак — 3600; бальнічных металічных ложкаў і ложкаў камбінаваных — па 9600 штук. Маем таксама магчымасць вырабляць пад заказ медыцынскія кушэткі, тумбы, мыліцы, сталы і г. д.

Мы не шукаем лёгкага жыцця, як можа аб гэтым хтосьці падумаць. Я і мая каманда думаем пра свой калектыў, пра сваю дзяржаву. Дык чаму мы павінны сустракаць у гэтым нейкае процідзеянне?! І — чыё?!

Апошнім часам мы паступова вяртаемся да былога рэжыму работы. Прадпрыемства пачынае працаваць у дзве змены. Цяпер вытворчыя магутнасці загружаны на 55 працэнтаў, на канец года мяркуем выйсці на 85.

***— Сяргей Іванавіч, вы вышэй ужылі выраз «я і мая каманда». Калі ласка, больш падрабязна і аб гэтым!***

— Пытанне адначасова і складанае, і простае. Складанае таму, што выдзеліць кагосьці з тых людзей, якія працуюць побач са мной, цяжка. А простае — людзі ж заслугоўваюць цёплага і шчырага слова пра сябе...

Паверце: за чатыры гады работы дырэктарам нам удалося стварыць згуртаваную універсальную каманду кіраўнікоў-аднадумцаў, з якімі і працуем на адну, агульную мэту. Прычым гэта не некалькі там чалавек, а цэлыя службы — інжынерная, вытворчая, эканамічная, камерцыйная. З тых, хто разумее мяне, што называецца, з паўслова, хачу найперш назваць намесніка генеральнага дырэктара Пятра Васільевіча Нікіціна, намесніка галоўнага інжынера Уладзіміра Давыдавіча Пячэрскага, начальніка канструктарска-тэхналагічнага аддзела Валерыя Анатольевіча Рабава, намесніка камерцыйнага дырэктара Мікалая Мікалаевіча Шайтуру, намесніка начальніка аддзела забеспячэння Уладзіміра Герасімавіча Хадановіча, начальніка аддзелачна-зборачнай вытворчасці Юрыя Рафаілавіча Церагулава, старшага майстра аддзела капітальнага будаўніцтва Сяргея Іванавіча Якубава... А колькі ў нас выдатных радавых працаўнікоў! Ганарыцца аб'яднанне набыткамі Валянціны Мікалаеўны Ермаковай, Таццяны Міхайлаўны Лужковай, Валянціны Уладзіміраўны Сухадолавай, Віктара Анатольевіча Баравога, Моты Мотавіча Кілермана, Анатоля Іванавіча Якавенкі, дзесяткаў іншых шчырых і сумленных рабочых, інжынерна-тэхнічных работнікаў і служачых.

Шмат яшчэ добрага можна і трэба было б сказаць пра нашых людзей, пра здабыткі і здзяйсненні, планы і задумы «Ольсы». У нас шмат зроблена ў сацыяльнай сферы, для аздараўлення і адпачынку працаўнікоў і іхніх сем'яў, нямала дапамагаем мы падшэфнаму калгасу «Рэста», што ў Чавускім раёне... Адным словам, жывём паўнацэнным, творчым жыццём, нягледзячы на цяжкасці, перашкоды, нягоды. Жывём і верым: сітуацыя палепшыцца, праблемы вырашацца і больш будзе на нашай вуліцы сапраўдных, вясёлых, агульных для ўсіх святаў.

**Дыялог вёў Анатоль МЯСНІКОЎ.**

*г. Магілёў.*

**Рэспубліка Беларусь, 212030, г. Магілёў, вуліца імя К. Маркса, 23.**
**ВЫТВОРЧАЕ АБ'ЯДНАННЕ «ОЛЬСА».**
**Тэл.: (8-022) — 222-07-32; 231-03-73; 222-10-32.**

**Усе мы лічым сябе сучаснымі людзьмі і нават не падазраём, наколькі моцнай застаецца наша сувязь з продкамі: пакінутыя нам дзядамі ў спадчыну «забабоны», як называюць матэрыялісты пэўныя стэрэатыпы мыслення народа, прайшлі пэўную «шліфоўку» і вельмі гарманічна ўпісаліся ў наша сучаснае жыццё. Яшчэ ў 1895 г. вядомы этнограф А. Я. Багдановіч у сваім нарысе пісаў: «...Беларусы прытрымліваюцца вельмі многіх забабонаў зусім падсвядома, не робячы ім ніякага тлумачэння. І калі вы спытаеце: чаму гэта можна рабіць, а вось гэта нельга, то ў большасці выпадкаў вам адкажуць: хто яго ведае; такая ад старых людзей пагалоска ідзе; старыя людзі ведалі, таму што разумней за нас былі; так айцы і дзяды рабілі і нам загадвалі...» Здаецца, што і праз сто гадоў мала што змянілася ў свядомасці нашых сучаснікаў. Вось толькі магі XX стагоддзя «забабоны» называюць ужо магіяй прымет...**

*777*

# ЗАБАБОНЫ:
## ЦЕМНАТА ЦІ МУДРАСЦЬ НАРОДА?

ПРАДКАЗВАЦЬ НЕКАТОРЫЯ ПАДЗЕІ ў жыцці беларусам дапамагаюць жывёлы і птушкі. Напрыклад, калі па вёсцы лётае зязюля — гэта да пажару. Пажар і іншыя няшчасці прадказвае і курыца, калі яна запяе пеўнем. Добра, калі бусел саўе ў кагонебудзь на хаце гняздо — значыць гэты чалавек будзе шчаслівы і багаты, але калі бусел, наадварот, — разбурае сваё гняздо, то гаспадарам той хаты ён прадказвае бяду. Калі воўк перабяжыць дарогу — будзе поспех у справах, а калі заяц — лепш вяртацца назад, бо поспеху не будзе. Калі гусі пачынаюць падымаць лапы і хаваць дзюбу пад крыло — гэта да марозу, а калі птушкі пачынаюць вышчыпвацца — к цяплу і сонейку. Лічыцца, што коні ржуць — да добрых навінаў, кошка мыецца — да гасцей. Скавытанне сабакі прадказвае ці наклікае смерць ці няшчасце, таму, каб сабака перастаў выць, трэба штосьці з посуду ў доме перавярнуць уверх дном. Таксама перад горам у хаце заводзіцца шмат мышэй — гэта азначае, што яны кагосьці адтуль выжываюць, таму трэба чакаць ці ад'езду, ці смерці кагонебудзь з членаў сям'і. Як нядобры знак успрымаюць у народзе і крык пугача ці крумкача над хатай.

Карысна будзе ведаць і забабоны пры продажы-набыцці хатняй жывёлы. Калі прадаеш карову ці каня, ці ўвогуле штосьці жывое, нельга перадаваць іх новаму гаспадару голымі рукамі — скаціна не будзе пладзіцца. У такім выпадку б'юць па руках і перадаюць купленае «касматай рукою», г. зн. заварочваюць руку ў падол адзення, бо касматае лічыцца сімвалам багацця. Калі хтосьці прадае парася, ягнёнка ці курыцу на расплод і саджае іх у мяшок, трымаючы за заднія ногі галавой наперад — у яго гэтыя жывёлы перавядуцца, а ў пакупніка, наадварот, расплодзяцца; калі ж ён саджае іх заднімі нагамі — яму будзе добра, але тады ў пакупніка не будзе прыплоду. Таму, каб нікога не пакрыўдзіць, трэба саджаць жывёлу ў мяшок спінаю, трымаючы яе за ногі. Немалаважным лічыцца і тая акалічнасць, хто менавіта прадаў скаціну, бо ёсць людзі з «лёгкай рукою», у якіх калі штонебудзь набудзеш, то яно абавязкова будзе множыцца.

Нямала прымет звязана ў беларусаў з неадушаўлёнымі прадметамі. Так, нельга прыносіць у падарунак нож, іголкі і булаўкі, інакш будзе сварка. Дзверы рыпяць — да непрыемнасцяў у доме. Дровы трашчаць — да маразоў. Калі штосьці падае з рук (лыжка, відэлец, нож), а таксама вугольчык з печы — к госцю. Вельмі дрэннай прыметай лічыцца разбіць люстэрка. Нельга здаровацца і цалавацца праз парог ці акно, нельга класці нож вастрыём уверх, нельга рассыпаць соль — усё гэта прадказвае сварку. Нельга падмятаць у адной хаце рознымі венікамі, інакш разыдзецца ўсё багацце. Выпадкова апрануць што-небудзь навыварат — быць бітым. Калі каму-небудзь у ежу трапіць вугалёк — гэта да багатых падарункаў.

Цэлы шэраг прымет звязаны з хлебам. Крышыць яго, кідацца ім лічыцца вялікім грахом, бо той, хто так робіць, сам застанецца без хлеба. Па хлебу прадказваюць лёс членаў сям'і: калі хлеб у печы разваліўся на дзве палавіны, ці вылез з печы — гэта не к дабру: памрэ ці гаспадар, ці гаспадыня. Вертыкальная трэшчына ў мякішы азначае хуткі падзел сям'і, гарызантальная — што ці дачка выйдзе замуж, ці сын пойдзе ў чужую сям'ю.

Ёсць і такое павер'е ў народзе: калі жадаеш, каб у тваім кашальку заўсёды вадзіліся грошы, трэба насіць у ім двайны арэх-«спарыш». А яшчэ ў народзе вераць, што ёсць такія нешчаслівыя моманты, у якія калі пачнеш што-небудзь рабіць, то табе абавязкова не будзе ўдачы, а калі скажаш што-небудзь дрэннае, то яно абавязкова здзейсніцца. Таму, пачынаючы важную справу ці паведамляючы аб чым-небудзь непажаданым, у першым выпадку трэба сказаць «дай, Божа, у добры час пачаць», а ў другім «дай, Божа, у добры час сказаць, а ў злы — прамаўчаць». Апошняй формулай, дарэчы, пачыналіся раней вясельныя «благаславенні» маладых.

Вера ў тое, што словамі можна чалавеку нашкодзіць, у старых людзей вельмі моцная. Таму, калі яны збіраюцца расказаць аб нейкім няшчасці, то папярэдне агаворваюцца «не тут кажучы» і толькі потым паведамляюць, што здарылася. А пры памінанні чорта прыбаўляюць «не ў гэтым святым месцы кажучы», бо інакш, вераць у народзе, у доме можа пасяліцца нячыстая сіла. Нячыстая сіла можа таксама сесці на ногі, калі іх без прычыны калыхаць. Нельга чакаць нічога добрага і калі калышаш пустую калыску — ад гэтага можа памерці дзіця. Магчыма, калышачы пустую калыску пры жывым дзіцяці, мы як бы наклікаем няшчасце, у выніку якога яна павінна апусцець.

Існуе шмат прымет у народзе па розных з'явах. Напрыклад, зорка з хвастом (камета) прадказвае якую-небудзь важную падзею. Калі вакол сонца з'яўляюцца кругі — гэта прадказвае няшчасце. Добрай прыметай лічыцца глядзець на вясёлку. Шчаслівы і пладавіты шлюб прадказвае дождж на другі дзень вяселля. А вось на цяжкі год указвае добры ўраджай рабіны.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

*ЛЯСЫ-БАЛЯСЫ*

## БЫВАЮЦЬ ЖА ТАКІЯ АДПАЧЫНКІ!..

**Пасля знікнення Альтэрнатыўнага тэатра яго мастацкі кіраўнік рэжысёр Вітас Грыгалюнас узяў «творчы водпуск».**

У яго было шмат часу падумаць над жыццём увогуле і жыццём у мастацтве — у прыватнасці. У нейкі момант Грыгалюнас дадумаўся да таго, каб пераехаць з Беларусі ў іншую краіну. Але да такога рашучага кроку не дайшло. Затое за час двухгадовага «водпуску» ён паспеў паставіць чатыры спектаклі — два ў Літве і два ў Беларусі. Зараз рэжысёр мае намер выйсці з уласна ўзятага тайм-аута і зноў працаваць для мінскай публікі. Прынамсі пэўныя крокі ён для гэтага ўжо робіць. Пачакаем. Магчыма, неўзабаве з'явіцца новы Альтэрнатыўны тэатр?..



## Віншаванні

*Сардэчна віншуем з днём нараджэння* ***Анатоля Аляксандравіча МАЗУРКЕВІЧА****. Жадаем здароўя, шчасця, бадзёрасці, поспехаў у жыцці.*

**Бацькі, жонка, дзеці, сястра,** г. Мінск.

*Шчыра віншуем нашу дарагую і любімую* ***Наталлю Мікалаеўну СОБАЛЬ*** *з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, доўгіх шчаслівых гадоў жыцця.*

**Муж Мікалай, дзеці.**

*Віншуем* ***Вікторыю Леанідаўну КАШАЛЕНКА*** *з днём нараджэння. Няхай збудуцца ўсе твае мары, здароўя, шчасця, любові і доўгіх гадоў жыцця.*

**Сабаляне.**

*Шаноўная* ***Валянціна Уладзіміраўна БОКУЦЬ****! Віншую з днём нараджэння, жадаю моцнага здароўя, вялікага шчасця.*

**Муж,** пас. Першамайск.

*Віншуем з днём нараджэння* ***Валянціну Іосіфаўну ШАГУН*** *з г. Ганцавічы. Жадаем здароўя, шчасця, радасці.*

**Далідовічы.**

*Сардэчна віншуем з днём нараджэння* ***Галіну Уладзіміраўну ЛУКАШАНЕЦ****. Жадаем здароўя, шчасця, поспехаў у працы, вясёлага настрою.*

**Муж, дзеці, свякроў.**

*36,6°*

# ГЭТЫ ЦУД — ЧАСНОК
## НЕ АДНО ТЫСЯЧАГОДДЗЕ ВЕРАЙ І ПРАЎДАЙ СЛУЖЫЦЬ ЧАЛАВЕКУ ЧАСНОК

**Першымі шырока выкарыстоўваць яго ў ежу і як лякарства пачалі больш як сорак вякоў таму шумеры. Яны ведалі аб гарачкапаніжальным і танізуючым дзеянні расліны; выганялі з дапамогай часнаку кішэчных паразітаў, рабілі з яго прыпаркі на пухліны і эмульсіі для лячэння звязак.**

У Старажытным Егіпце часнаком кармілі будаўнікоў пірамід — для абароны ад частых эпідэмій. Акрамя таго, знімалі зубны боль, запаўняючы гнілыя поласці часночнай кашкай.

Вядома, што Гіпакрат аблягчаў пакуты сваіх пацыентаў мікстурай з часнаку, макавай выцяжкі і віна. Гэтай жа сумессю намочвалі павязкі на гнойныя раны.

Крыху пазней Гален, які лячыў рымскага імператара Марка Аўрэлія, а заадно і раненых гладыятараў, вынайшаў моцнадзейную мікстуру, у якой часнок, ладан і алоэ змешваліся ў роўных частках з дабаўленнем яечнага бялка. На раны славуты лекар накладваў павязкі, прапітаныя маззю, прыгатаванай з мукі, тоўчанага часнаку і масла...

Сярэдневяковыя ўрачы расшырылі сферу прымянення часнаку — пры лячэнні галаўнога болю, астмы, глісных захворванняў, нават чумы; да яго звярталіся як да сродку прафілактыкі туберкулёзу і атэрасклерозу, і, вядома, як да проціяддзя. Рускія лекары ў тыя часы ўжо лячылі часнаком гіпертанію, бяссонніцу, малярыю, рэўматызм, ангіну, падагру, страўнікава-кішачныя захворванні; з яго дапамогай выдалялі барадаўкі і мазалі. Дададзім, што задоўга да адкрыцця фітанцыдаў лятучыя выдзяленні часнаку выкарыстоўваліся на Русі для лячэння гнойных ран і трафічных язваў.

Не трэба думаць, што ў нашы дні часнок выцеснілі навейшыя тэхналогіі і адкрыцці вучоных. Наадварот. Так, І Сусветны кангрэс па часнаку, які адбыўся ў 1990 годзе, адкрыў новыя сферы прымянення цуда-расліны ў медыцыне і ветэрынарыі. Высветлілася, што лекавыя ўласцівасці часнаку перш за ўсё абумоўленыя яго багатым хімічным саставам і высокім утрыманнем гліказіду аліну і іншых сераўтрымліваючых кампанентаў, эфірнага алею, вугляводаў, фітастэрынаў, полісахарыду інуліну, соляў, ёду, кальцыю, фосфару, магнію, мікраэлементаў і арганічных кіслот, вітамінаў С, В', Д', РР.

Лекавая актыўнасць часнаку ўзрастае пры расцісканні ці наразанні зубчыкаў. У гэты момант алін уступае ў кантакт з ферментамі — аліназамі. Утвораныя ў выніку рэчывы разрэджваюць кроў і перашкаджаюць утварэнню крывяных згусткаў — тромбаў. Таму хворым на сардэчную недастатковасць ці варыкознае расшырэнне вен паказана ўжыванне ў ежу свежага часнаку, але пры ўмове, што яны маюць здаровыя ныркі.

Устаноўлена, што аліксін, які выдзяляецца пры расцісканні зубчыкаў, павышае супраціўляльнасць арганізма да анкалагічных захворванняў. Так, сярод італьянцаў, якія моцна запраўляюць ежу часнаком, хворых на рак страўніка сустракаецца на 60 працэнтаў менш, чым сярод тых, хто не ўжывае гэтай пахучай прыправы.

Свежы часнок і яго прэпараты з поспехам прымяняюцца пры лячэнні ВРЗ, грыпу, энтэрытаў, калітаў, атаніі кішэчніка, дыспепсіі, цукровага дыябету, гіпертаніі, фурункулаў, экзэмы, гемарою і многіх іншых хвароб. У нашых аптэках можна купіць розныя прэпараты, у састаў якіх уваходзіць часнок: аліфід, алахол, алілсат, настойку часнаку і іншыя. За мяжой у медыцынскіх мэтах вырабляюць часночныя пасты, піва і віно з часнаку, часночны парашок, часночны хлеб.

І ўсё ж самае высокае лячэбнае дзеянне аказвае свежы часнок у выглядзе рэзаных скрылёчкаў, кашкі, здробненых ці расціснутых зубчыкаў.

*«Крестьянка».*



Малюнак Марыны ГАРЭЛАВАЙ.



*УСЁ ПРА ЎСЁ*

## МУЖЧЫНА І ЖАНЧЫНА. ЧЫМ МЫ АДРОЗНІВАЕМСЯ

*Вядома, што раўнапраўе мужчыны і жанчыны — з'ява не сённяшняга дня. Ужо даўно мы ідзём да гэтага. А тым часам псіхолагі, педагогі, сацыёлагі і ўрачы выяўляюць усё больш адрозненняў паміж імі.*

### Аўтамабіль

Да гэтага часу ён застаецца сродкам сцвярджэння мужчынскай значнасці. І хоць большасць выпускнікоў аўташкол — жанчыны, статыстыка паказвае, што ў далейшым толькі кожная трэцяя сядае за руль. А шкада, бо жанчыны ў два разы радзей становяцца вінаватымі ў дарожна-транспартных здарэннях. Да таго ж здарэнні з іх удзелам звычайна менш сур'ёзныя, чым тыя, што ўчынілі мужчыны.

### Боль

Жанчыны больш адчувальныя да фізічнага болю, але і больш цярплівыя, чым мужчыны. Аднак пры ўсім сваім цярпенні да ўрачоў яны звяртаюцца ў тры разы часцей. Мужчыны жывуць па прынцыпу «цярпець не магу, да ўрача не пайду». Звязана гэта са страхам перажыць яшчэ большы боль у час лячэння, а таксама з нежаданнем прызнаць сваю хваробу, г. зн. сваю слабасць.

### Гнеў

Калісьці ад хуткасці рэакцыі і здольнасці да дзеяння ў любой сітуацыі залежаў поспех мужчыны-паляўнічага і мужчыны-абаронцы. Сёння залішняя імпульсіўнасць хутчэй шкодзіць. Падчас стрэсу ў сучаснага мужчыны, як і ў яго далёкага продка, падымаецца ціск і адбываецца магутны выкід адрэналіну. Адсюль і некантралюемы мужчынскі гнеў. Жанчыны менш схільныя да такіх нечаканых выбухаў агрэсіўнасці не таму, што адчуваюць сябе бяспраўнымі, а таму, што ў стрэсавых сітуацыях ціск і адрэналін у іх звычайна бліжэй да нормы, чым у мужчын.

### Дэпрэсія

Урачы сцвярджаюць, што ад дэпрэсій жанчыны пакутуюць у два разы часцей, чым мужчыны. А ад сезонных дэпрэсій (напрыклад, ад недахвату сонца напрыканцы зімы) — у 6 разоў часцей.

### Ежа

Дзіўна, што ніхто ў мінулыя часы не дадумаўся падзяліць мужчын і жанчын яшчэ і па прынцыпу гастранамічных прыхільнасцяў. Між тым тое, што жанчыны часцей любяць салодкае, а мужчыны — салёнае, даказана навукай. Тады, згодна з прымаўкай «шлях да сэрца мужчыны ляжыць праз страўнік», лепш прыхапіце з сабой у гэты нялёгкі шлях салёныя чыпсы і піва, чым салодкі яблычны пірог з чаем.

### Жорсткасць

Псіхолагі выявілі, што ўжо ў раннім узросце хлопчыкі больш жорсткія, чым дзяўчынкі. Падобна, стаўшы дарослымі, яны не становяцца іншымі. На адным еўрапейскім ралі было інсцэніравана дарожна-транспартнае здарэнне. З 62 удзельнікаў-мужчын каля месца аварыі спыніліся толькі 35 чалавек, яшчэ двое выклікалі дапамогу. Астатнія вырашылі не губляць дарэмна часу. Тады як з 62 удзельніц толькі дзве палічылі магчымым праехаць і не спыніцца.

**По матэрыялах прэсы склала Вікторыя КЛЯНОВІК.**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
***ФАКС:** 68-27-79. **E-mail:** daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 84.902. Індэкс 63850.
Зак. № 1500.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12